*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 14 (1165)** **2 КРАСАВІКА 2014 г.**

## Канферэнцыя “Кастусь Каліноўскі і нацыятворчы працэс у Беларусі”

27-29 сакавіка ў Лондане адбылася навуковая канферэнцыя "Кастусь Каліноўскі і нацыятворчы працэс у Беларусі" - найбуйнейшая беларуская навуковая падзея апошніх дзесяцігоддзяў







Канферэнцыю арганізавалі найстарэйшыя беларуская арганізацыі Вялікабрытаніі - Асацыяцыя беларусаў Вялікай Брытаніі і Англа-беларускае таварыства. Партнёрамі канферэнцыі выступілі Універсітэцкі каледж Лондана, "Часопіс беларускіх даследаванняў", Амбасада Літоўскай рэспублікі, "Belarus Digest", Цэнтр пераходных даследаванняў і Прафесійная асацыяцыя беларусаў Брытаніі.

Падзея пачалася з малітвы за беларускі народ, якую адслужыў айцец Аляксандр Надсан. У сваім вітальным слове ён адзначыў важную сімвалічную ролю Кастуся Каліноўскага і Дня Волі ў кантэксце сучасных падзеяў у Еўропе. Айцец Надсан правёў экскурсію па беларускай Скарынаўскай бібліятэцы і музеі.

Удзельнікаў прывіталі сябры аргкамітэту канферэнцыі - Караліна Мацкевіч, Джым Дынглі і Яраслаў Крывы. Ад Асацыяцыі беларусаў Вялікай Брытаніі выступіў Мікалай Пачкаеў.

28 сакавіка асноўная частка канферэнцыі сабрала блізу 50 удзельнікаў ва Універсітэцкім каледжы Лондана. Навукоўцы з Беларусі, Польшчы, Літвы і Вялікай Брытаніі прадставілі больш за 15 дакладаў, звязаных з гістарычнымі, літаратурнымі і палітычнымі аспектамі спадчыны Кастуся Каліноўскага.

З вітальным словам па-беларуску перад удзельнікамі выступіла амбасадар Літоўскай Рэспублікі ў Лондане Аста Скайсгірайце-Ляўшкене, а таксама былы амбасадар Вялікай Брытаніі ў Беларусі і цяперашні старшыня Англа-беларускага таварыства Браен Бенет.

Увечары адбылося адкрыццё выставы "Невядомая Беларуская Народная Рэспубліка" ў галоўным будынку Універсітэцкага каледжа Лондана, арганізаванай Еўрапейскім гуманітарным універсітэтам.

29 сакавіка пасля акадэмічнай часткі канферэнцыі ўдзельнікі далучыліся да святкавання Дня волі ў Беларускім доме, якое суправаджалася фотавыставай, прысвечанай паўстанню Кастуся Каліноўскага.

Канферэнцыя сталася найбуйнейшай акадэмічнай падзеяй, прысвечанай Беларусі ў Вялікай Брытаніі за апошнія дзесяцігоддзі. Па выніках канферэнцыі плануецца выданне спецыяльнага нумара "Часопіса беларускіх даследаванняў" на ангельскай і беларускай мовах.

*Радыё Свабода.*

ISSN 2073-7033




## 100 гадоў з дня нараджэння Ганны Новік

**Ганна Аляксееўна НОВІК** (25 сакавіка 1914, Аўгустоў - 1997, Вілейка) - беларуская паэтэса, удзельніца нацыянальна-вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі, на Вілейшчыне.

Нарадзілася ў Аўгустове, цяпер Польшча, у сям'і выхадцаў з Вілейшчыны: бацька з вёскі Варонічы, а маці - з Іжы. Дзед быў токарам па дрэве - тачыў міскі, талеркі, ступкі, дошчачку, якой крылі дахі дамоў. Усю зіму дзед працаваў на гэтай рабоце, а ў астатні час ён займаўся сельскай гаспадаркай. Сям'я ў бацькі была вялікая, таму ён у 17 год наняўся фурманам да агента па швейных машынках "Зінгер". Потым бацька стаў слесарам на складзе гэтых машын.

Маці ў шэсць гадоў засталася круглай сіратой, таму яна гадавалася ў апекуноў, а пасля стала служанкай у багатых гаспадароў. З пачаткам Першай сусветнай вайны бацькі вяртаюцца на Вілейшчыну.



Вучылася чытаць па грашах, якія ў той час былі: керанскія, расійскія і польскія. Потым вучылася ў польскай школе. Працавала ў бацькавай кузні. Вывучылася на краўчыху. У юнацтве прымае ўдзел у жыцці Куранецкага беларускага падполля. За падпольную дзейнасць і спробу пераходу ў Савецкі Саюз трапляе за краты Вілейскай турмы амаль на тры гады. У 1939 - дэпутат уз'яднальнага Народнага Сходу ў Беластоку. Працавала інспектарам Куранецкага района. У часе Вялікай Айчыннай вайны партызаніла. Нарадзіла і страціла дачку. Пасля вайны нараджаецца сын. У 1949 памірае муж.

Ад 1948 - старшыня калгаса ў Варонічах, старшыня сельсавета, працуе намеснікам начальніка палітаддзела МТС у Крывіцкім раёне. Па стане здароўя вяртаецца ў Варонічы.

Амаль усё жыццё пражыла ў Варонічах. Памерла ў Вілейцы ў 1997 годзе. Пахавана на Вілейскіх гарадскіх могілках каля вёскі Снежкава.

Вершы на польскай мове пачала друкаваць пяцікласніцай у 1925 годзе ў часопісе вілейскага інспектарата школ. Пасля вайны друкавалася ў "Полымі", у мясцовым друку. У 1960 прынята ў Саюз пісьменнікаў.

*Вікіпедыя.*

## 100 гадоў з дня нараджэння Васіля Струменя



**Васіль СТРУМЕНЬ** (сапр. Аляксандр Мікалаевіч Лебедзеў; 1 красавіка 1914, вёска Лявонцьева, Калагрыўскі павет, Кастрамская губерня, цяпер Мантураўскі раён, Кастрамская вобласць, Расія - 25 кастрычніка 1992, Сарны, Ровенская вобласць, Украіна) - беларускі і ўкраінскі паэт, празаік, педагог.

Пісаў на беларускай і ўкраінскай мовах. Бацька загінуў на фронце ў 1915. У 1921 сям'я перабралася на радзіму айчыма ў вёску Зачэпічы Лідскага павета Навагрудскага ваяводства (цяпер Дзятлаўскі раён, Гарадзенская вобласць). У 1930 арганізаваў і ўзначаліў камсамольскую ячэйку ў в. Зачэпічы. У 1932 уступіў у КПЗБ. Першы яго верш "Наша доля" апублікаваны ў падпольнай газеце "Малады камуніст" у 1931, першыя сатырычныя нататкі - у 1932. За рэвалюцыйную дзейнасць, публікацыю антыўрадавых вершаў і ўдзел у забастоўцы на шклозаводзе "Нёман", дзе працаваў у 1935-36, зняволены ў турмах Ліды, Глыбокага, Вілейкі. За спробу нелегальна перайсці савецка-польскую мяжу зняволены ў Вілейскай турме. Пасля адбыцця тэрміну пакарання прымусова здадзены ў армію. За рэвалюцыйную агітацыю сярод салдат польскай арміі ў 1937-38 адбываў пакаранне ў Лідскай гарнізоннай турме строгага рэжыму. У 1938 разам з бацькамі пераехаў на Ровеншчыну. Удзельнічаў у рэвалюцыйным падполлі Заходняй Украіны. Пасля 1939 працаваў у сферы адукацыі, адначасова завочна вучыўся ў Астрожскай педагагічнай школе, якую скончыў 22.6.1941. У гады вайны ў антыфашысцкай групе. У 1944-45 у Чырвонай арміі, двойчы паранены. Пасля дэмабілізацыі працаваў выкладчыкам украінскай мовы і літаратуры ў СШ Кастопаля Ровенскай вобласці. Завочна скончыў Ровенскі настаўніцкі інстытут (1949), Львоўскі педагагічны інстытут (1953). Першы верш на ўкраінскай мове апублікаваў у 1956. Да выхаду на пенсію ў 1979 працаваў у сферы адукацыі ў Валынскай і Ровенскай абласцях.

Будучы ўжо ў сталым узросце, Васіль Струмень часта наведваў Лідчыну, Дзятлава, Менск. Адразу ж з чыгуначнага вакзала Ліды шпарка ішоў у рэдакцыю мясцовай газеты "Уперад". Кожнага супрацоўніка, творчага і тэхнічнага, лічыў тут сваім прыяцелем. Даведаецца аб нашым жыцці-быцці, потым распытвае пра сваіх сяброў яшчэ даваеннага часу. У іх ліку часта называў Вікенція Сальгу з Феліксава, колішняга актывіста Беларускай сялянска-работніцкай грамады і Таварыства беларускай школы, Івана Івавіча (Пятруся Граніта), вернага паплечніка з Зачэпічаў, актывіста КПЗБ Ісака Карабельніка з Ліды, Васіля Камянеўскага (Міхася Ліста) з Краснай і многіх іншых...

*Вікіпедыя.*

# Да 90-годдзя Васіля Быкава


Грамадскае аб'яднанне
"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"
220034, г. Мінск вул. Румянцава, 13, тэл. 284-85-11, разліковы рахунак
№ 3015741233011 у ЦБУ №539 ААТ Белінвестбанк", г. Мінск, код 739
10 лютага 2014 г. № 11

Кіраўніку Адміністрацыі
Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь
Кабякову А.У.

**Шаноўны Андрэй Уладзіміравіч!**

Як Вам, безумоўна, вядома, сёлета спаўняецца 90 гадоў з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры, Героя Сацыялістычнай Працы, франтавіка, народнага дэпутата СССР, Народнага пісьменніка Беларусі, прызнанага майстра сусветнага ўзроўню Васіля Быкава. У многіх краінах свету спачатку ведаюць Васіля Быкава, а пасля Беларусь.

Трэба было спадзявацца, што беларуская дзяржава, якая ў першую чаргу з'яўляецца спадкаемцам таленту і сусветнай славы Васіля Быкава, годна адзначыць юбілей Майстра дзеля ўшанавання яго памяці і падняцця прэстыжу Беларусі ў свеце.

Мы лічым, што асноўныя мерапрыемствы па ўшанаванні Васіля Быкава пройдуць: на Віцебшчыне, дзе ён нарадзіўся; на Гарадзеншчыне, дзе расквітнеў яго талент; у Мінску, дзе ён плённа працаваў і дзе завяршыў свой зямны шлях.

Нядаўна на сайце "Твой стыль" была апублікавана праграма мерапрыемстваў "Гродна - культурная сталіца Беларусі". Думалася, якое ўдалае супадзенне, у рамках "культурнай сталіцы" можна зрабіць непараўнальна больш для памяці В. Быкава ў Гродна (адкрыць музей, назваць вуліцу, паставіць помнік, павесіць мемарыяльную дошку, правесці шэраг літаратурных і культурных імпрэзаў і г.д.). Аднак у апублікаванай праграме мы знаходзім толькі невялікія чытанні ў верасні месяцы. Ні аднаго сур'ёзнага мерапрыемства, наогул ніякага мерапрыемства ў чэрвені месяцы (дзень нараджэння В. Быкава - 19 чэрвеня) не спланавана. Наогул, нічога на год не спланавана акрамя згаданых чытанняў.

Шаноўны Андрэй Уладзіміравіч!

Мы задаём Вам пытанне, ці па-дзяржаўнаму гэта?

Вакол юбілею Васіля Быкава павінна б круціцца ўся культурная праграма Гродна на гэты год. Сюды дзеля В. Быкава паехалі б тысячы турыстаў. У беларускіх тэатрах Віцебска і Мінска павінны ўвесь год ісці п'есы па Быкаву. У кінатэатрах павінны ісці фільмы па Быкаву.

Мы далёкія ад думкі, што кіраўнік Беларускай Дзяржавы загадаў гродзенцам не святкаваць юбілей В. Быкава, з якім ён быў асабіста добра знаёмы і якога паважаў, і таму пазіцыя гродзенскіх чыноўнікаў нам не зразумелая.

У свой час Міністэрства культуры Беларусі лічыла мэтазгодным адсвяткаваць у нашай краіне юбілей В. Быкава, пра што сведчыць ліст намесніка міністра Т. Стружэцкага кіраўніку Віцебскай абласной рады ТБМ Іосіфу Навумчыку (дадаецца).

Аднак і ў Віцебску мерапрыемствы па ўшанаванні Васіля Быкава не даведзены да грамадскасці. Не вельмі імкнецца ўшанаваць памяць класіка беларускай літаратуры і Мінскі гарвыканкам. І гэта адбываецца ў 70-я ўгодкі вызвалення Беларусі ад фашысцкіх акупантаў, калі памяць пра франтавіка-пісьменніка павінна быць годна ўшанавана. Было б добра, каб да 9 мая з'явіўся адпаведны Указ Кіраўніка Беларусі аб ушанаванні памяці Васіля Быкава, у якім было б прадугледжана наступнае:

1. Назваць вуліцы імем Васіля Быкава ў Мінску, Гродне, Віцебску і Ушачах.

2. Адкрыццё мемарыяльнай дошкі на доме ў Мінску (былая вуліца Танкавая), дзе жыў іпісьменнік.

3. Выданне мастацкага канверта з партрэтам Васіля Быкава.

4. Стварэнне музейнай экспазіцыі, прысвечанай В. Быкаву, у Нацыянальным гістарычным музеі, Віцебскім і Гродзенскім абласных музеях.

Быкаў - гэта Беларусь!
Беларусь - гэта Быкаў!
Гэтага не змяніць і не замаўчаць.

Са спадзяваннем на разуменне і падтрымку
нашых прапаноў,
Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" А. Трусаў.

---



Міністэрства культуры
Рэспублікі Беларусь
Грамадскае аб'яднанне
"Таварыства беларускай
мовы імя Францыска Скарыны"

Аб разглядзе звароту

Галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта, разгледзеўшы зварот грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", накіраваны з Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 10 лютага 2014 г. № 11, паведамляе наступнае.

У 2014 годзе ў г. Гродна не плануецца адкрыццё новых музеяў, у тым ліку і музея Васіля Быкава. Аднак, разглядаецца пытанне аб стварэнні пакоя В. Быкава на базе літаратурнага аддзела ўстановы культуры "Гродзенскі дзяржаўны гісторыкаархеалагічны музей".

Пытанне аб наданні адной з вуліц г. Гродна імя В. Быкава можа быць разгледжана пры будаўніцтве новых вуліц і пасля разгляду на паседжанні гарадской тапанімічнай камісіі.

У рамках праграмы мерапрыемстваў рэспубліканскай акцыі "Гродна - культурная сталіца Беларусі 2014 года" у г. Гродна плануецца правесці больш за 300 мерапрыемстваў, з іх 111 - найбольш значных, якія былі ўключаны ў План правядзення акцыі. Штомесяц увазе гасцей і жыхароў горада прадстаўляецца адно буйное мерапрыемства. У верасні 2014 г. да 90-годдзя з дня нараджэння В. Быкава запланавана правядзенне IX гарадзенскіх чытанняў і літаратурная сустрэча "Невычэрпнасць духу і чалавечнасці". Ва ўстановах культуры горада пройдуць і іншыя мерапрыемствы да адзначанай даты.

Першы намеснік начальніка А.Л. Вярсоцкі.

---


МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
Праспект Пераможцаў, 11, 220004, г. Мінск
Тэлефон (017) 203 75 74
Факс (017) 203 90 45
e-mail: ministerstvo@kultura.by

МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
Проспект Победителей, 11, 220004, г. Минск
Телефон (017) 203 75 74
Факс (017) 203 90 45
e-mail: ministerstvo@kultura.by

20.03.2014 № 06-16/1362/н
На № 11 ад 10.02.2014

Старшыні грамадскага
аб'яднання "Таварыства
беларускай мовы
імя Францішка Скарыны"
Трусаву А.А.

Аб разглядзе звароту

**Паважаны Алег Анатольевіч!**

У адпаведнасці з даручэннем Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 17 лютага 2014 г. № 10/535-10 Міністэрствам культуры сумесна з Міністэрствам сувязі і інфарматызацыі, Віцебскім і Гродзенскім аблвыканкамамі, Мінскім гарвыканкамам разгледжаны Ваш зварот аб правядзенні святочных мерапрыемстваў, прымеркаваных да 90- годдзя з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі В. Быкава.

У мэтах захавання і папулярызацыі творчай спадчыны народнага пісьменніка Беларусі В. Быкава Кіраўніком дзяржавы дадзены адпаведныя даручэнні, выкананне якіх каардынуецца Міністэрствам культуры. У дадзены момант часу Міністэрствам культуры сумесна з установай "Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры" вядзецца работа па стварэнні філіяла "Музей-дача Васіля Быкава" у дачным пасёлку Ждановічы-6. На дачы праводзяцца рамонтныя работы, ідзе работа па стварэнні мемарыяльнай экспазіцыі. Урачыстае адкрыццё філіяла запланавана ў чэрвені 2014 года. Таксама сумесна з грамадскім аб'яднаннем "Саюз пісьменнікаў Беларусі" запланавана правядзенне літаратурнай вечарыны да 90-годдзя з дня нараджэння В. Быкава ў Доме літаратара.

Віцебскім аблвыканкамам вядзецца падрыхтоўка святочных мерапрыемстваў да 90-годдзя з дня нараджэння В. Быкава, інфармацыя аб якіх будзе даведзена да шырокай грамадскасці праз сродкі масавай інфармацыі. Таксама ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі ў чэрвені 2014 года запланавана правядзенне адпаведнай выставы.

У адпаведнасці з Інструкцыяй аб парадку вырабу і распаўсюджвання дзяржаўных і іншых знакаў паштовай аплаты Рэспублікі Беларусь, зацверджанай пастановай Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь ад 16.09.2008 г. №38, выдатныя дзяржаўныя і палітычныя дзеячы, дзеячы навукі, культуры і мастацтва могуць быць адлюстраваны на дзяржаўных знаках паштовай аплаты не раней чым праз 5 гадоў пасля смерці і да юбілеяў з дня нараджэння, якія кратны 25. Такім чынам, 90 гадоў з дня нараджэння В. Быкава не можа быць асновай сюжэту для выдання мастацкага канверта з партрэтам пісьменніка.

Прапанова аб прысваенні імя В.Быкава новым вуліцам у г. Мінску, г. Гродне, г. Віцебску і г. Ушачах будзе разгледжаны адпаведнымі камісіямі па найменні і перайменаванні праспектаў, вуліц, плошчаў і іншых складовых частак ва ўстаноўленым парадку.

Пытанне аб ўсталяванні мемарыяльнай дошкі В. Быкаву ў г. Мінску на доме, дзе жыў пісьменнік, будзе разгледжана Міністэрствам культуры ва ўстаноўленым парадку пасля атрымання хадайніцтва Мінскага гарвыканкама і вызначэння крыніц фінансавання.

Намеснік Міністра В.М. Чэрнік.

# Пайшоў з жыцця лідскі краязнавец Анатоль Кулеш



На 87-м годзе жыцця не стала лідскага краязнаўца, настаўніка, грамадскага дзеяча і журналіста **Анатоля Куляша**. Анатоль Фёдаравіч быў адным з пачынальнікаў сучаснага лідскага краязнаўства. Асабліва шмат з гэтым кірунку ён працаваў апошнія гады.

Нарадзіўся Анатоль Фёдаравіч Кулеш у позні майскі вечар, 5 траўня 1927 года пад самае свята Юр'ева дня. Вёска Зблыны Лідскага раёна, дзе яму пашчасціла прыйсці на свет, раскінулася ўздоўж правага берага Нёмана ў самым цудоўным на свеце прыродным кутку. Тут ён пазнаў першыя словы, першыя літары, тут прыйшло першае каханне. Тут усё было першым. Але ў 17-гадовым узросце жыццё прымусіла пакінуць гэты багаты, цудоўны, жыватворны край.

Анатолю Куляшу прыйшлося пачаць вучобу ў польскай школе першай ступені з адным настаўнікам. Выкладанне прадметаў вялося толькі на польскай мове.

У шосты клас Анатоль пайшоў ужо пасля вайны - 1 кастрычніка 1944 года - у Лідскую СШ №1. Праляцелі 4 гады. Паўстала пытанне: як быць далей пасля заканчэння сярэдняй школы? У гэты час з-за недахопу настаўнікаў сельскіх школ, у Лідскай педнавучальні была адкрыта "спецгрупа" па падрыхтоўцы настаўнікаў пачатковых класаў з гадзічным тэрмінам навучання. Туды прымалі слухачоў, якія мелі сярэднюю і дзевяцікласную адукацыю. Шмат што вабіла туды вясковага хлопца: стыпендыя, інтэрнат, а галоўнае - праз год ты становішся самастойным чалавекам. Канчалася нястача, беднасць, галеча. Вучоба ішла лёгка, без напругі. Скончыўся год, мелі быць выпускныя дзяржаўныя экзамены. Перад тым адбылося "размеркаванне". Размеркавалі на працу ў Лідскую працоўную дзіцячую калонію МУС.

Праз год вылузаўся з калоніі і стаў настаўнікам матэматыкі Спорказскай сямігодкі за 5-6 кіламетраў ад Ліды.

Летам 1951 года А.Ф. Куляшу прапанавалі пасаду другога сакратара райкама камсамолу і адначасова ўзначаліць аддзел прапаганды. А ў раёне поўным ходам ішла калектывізацыя аднаасобных гаспадарак у гаспадаркі калектыўныя – калгасы. Але гэта быў ужо не 1939 год. Што ўяўляюць сабой калгасы, сяляне добра ведалі. Таму, як маглі, супраціўляліся.

У гэты час (1951 г.) былі арыштаваны сябры і аднавяскоўцы А. Куляша за ўдзел у маладзевай патрыятычнай антысавецкай арганізацыі, але на яго ніхто не паказаў.

Праца ў камсамоле не задавальняла, а пайсці па асабістым жаданні з выбарнай пасады – партыйнай ці камсамольскай, савецкай – можна было двума шляхамі: здзейсніць злачынства, ці калі цябе не выбяруць на наступны тэрмін. Але А. Куляшу ўдалося з малымі стратамі зноў стаць настаўнікам, ужо ў Шайбакоўскай школе.

Шмат гадоў А. Кулеш прысвяціў краязнаўству. Яго ўдзел у краязнаўчай рабоце можна падзяліць на тры перыяды: знаёмства з родным краем у дзіцячыя і школьныя гады, у час збору матэрыялаў для напісання дыпломнай работы пры заканчэнні геаграфічнага аддзялення фізіка-геаграфічнага факультэта Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта на тэму "Фізіка-геаграфічная характарыстыка Лідскага раёна" і ў час работы пазаштатным экскурсаводам Лідскага бюро падарожжаў і экскурсій.

У выніку шмат матэрыялаў апублікаваў у рэспубліканскіх, абласных і мясцовых перыядычных выданнях.

Працуючы настаўнікам геаграфіі ў школах горада, склаў фізіка-геаграфічны атлас раёна. У яго ўвайшлі фізіка-геаграфічная, геолага-геамарфалагічная карты, геалагічны разрэз і комплексны геамарфалагічны і раслінны профіль тэрыторыі раёна. Склаў гіпсаметрычную крывую рэльефу Лідскага раёна. Былі ахарактарызаваны рэжым рэк: Нёмана, Дзітвы, Лідзейкі.

Нарэшце была выдадзена кніжка пад назвай "Горад Ліда: гісторыя, легенда, факты" - папулярны гістарычна-геаграфічны нарыс.

Працаваў у складзе рабочай групы па напісанні кнігі "Памяць. Ліда і Лідскі раён". А яшчэ ў шуфлядзе А. Куляша на сёння тры невыдадзеныя кнігі.

Вечная памяць і павага ад удзячных лідзян.

Нехай родная зямелька не будзе яму цяжкай.

# Увага, конкурс!

**Лідскае дабрачыннае разам з аддзелам адукацыі Лідскага райвыканкама абвяшчае конкурс сачыненняў і рэфератаў, прымеркаваны да Дня славянскага пісьменства і культуры і памяці святых Кірыла і Мяфодзія**

Конкурс сачыненняў і рэфератаў навучэнцаў Лідскага каледжа, музычнай вучэльні, ліцэяў, гімназій і агульнаадукацыйных школаў праводзіцца на тэмы: **"Гісторыя Беларусі і Аповесць мінулых гадоў"** да 900-годдзя спачыну Нестара Летапісца; **"Князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі (1460-1530) - палкаводзец, патрыёт, абаронца веры"**; **"Вобраз Бацькаўшчыны ў творчасці Тараса Шаўчэнкі"** да 200-годдзя з дня нараджэння паэта; **"Маральны выбар герояў Васіля Быкава"** да 90-годдзя з дня нараджэння пісьменніка і 70-годдзя правядзення вайсковай аперацыі "Баграціён". Тэмы канкрэтных твораў, датычныя вышэйназваных юбілеяў, могуць быць сфармуляваны самымі навучэнцамі. Любы крэатыў вітаецца.

Сачыненні і рэфераты прымаюцца на беларускай і рускай мовах. **Вітаюцца беларускамоўныя тэксты.** У афармленні работаў неабходна пазначыць прозвішча, імя, імя па бацьку, зваротны адрас, кантактны тэлефон, курс (клас). Работы ўдзельнікаў конкурсу дасылаюцца да 1 мая 2014 года на адрас электроннай пошты з пазнакай "Конкурс": uladzimier.kaminski@gmail.com.

Даведкі па нумары: + 375(29) 58-77-867 (МТС) (Уладзімір Юр'евіч Камінскі).

## Рэкамендаваная літаратура

1. На тэму **"Гісторыя Беларусі і Аповесць мінулых гадоў"**:

Паданні пра полацкіх князёў - http://bk.knihi.com/letapisy/letapisy1.html;

Старонкі полацкага летапісу - http://bk.knihi.com/letapisy/letapisy2.html;

Повесть временных лет - http://old-russian.chat.ru/01povest.htm;

Чамярыцкі Вячаслаў. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры - http://knihi.com/Viacaslau_Camiarycki/Bielaruskija_letapisy_jak_pomniki_litaratury.html.

2. На тэму **"Князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі (1460-1530) - палкаводзец, патрыёт, абаронца веры"**:

Кроніка Быхаўца (Як Вялікае Княства Літоўскае было зваяванае праз маскоўцаў, а таксама праз татараў перакопскіх; Як маскоўцаў з-пад Смаленска прагналі) - http://knihi.com/anon/Kronika_Bychauca.html;

Пахвала князю Канстанціну Іванавічу Астрожскаму - http://bk.knihi.com/letapisy/letapisy6.html#1;

Чаропка Вітаўт. Уладары Вялікага княства. Мн., 2007 - http://knihi.com/Vitaut_Caropka/Uladary_Vialikaha_Kniastva.html;

Сагановіч Генадзь. Айчыну сваю баронячы (Канстанцін Астрожскі, 1460-1539). Мн., 1992 - http://knihi.com/Hienadz_ Sahanovic/Ajcynu_svaju_baroniacy_Kanstancin_Astrozski,_1460-1530.html;

Старажытная беларуская літаратура (XII-XVII стст.). Мн., 2007.

3. На тэму **"Вобраз Бацькаўшчыны ў творчасці Тараса Шаўчэнкі"**:

Шаўчэнка, Тарас Рыгоравіч. Вершы. Паэмы: з украінскай / Тарас Шаўчэнка. - Мінск: Мастацкая літаратура, 1989;

Шаўчэнка Тарас. Мастак. Мн., 2014;

http://knihi.com/Taras_Saucenka/.

4. На тэму "**Маральны выбар герояў Васіля Быкава"**:

Любыя творы - http://knihi.com/Vasil_Bykau/.



# 25 сакавіка на Лідчыне

25 сакавіка актывісты арганізацый ТБМ імя Ф. Скарыны і БНФ з Ліды і Бярозаўкі правялі традыцыйнае ўшана-





ванне памяці дзеячоў Беларускай незалежніцкай партыі на Лідскіх праваслаўных могілках па вул. Савецкай і памяці міністра абароны Беларускай Народнай Рэспублікі генерала ад інфантэрыі Кіпрыяна Кандратовіча каля царквы ў Воранаве.

Ушанаванне памяці змагароў за незалежную Беларусь праходзіць у гэтых мясцінах ужо многія гады і будзе праходзіць надалей.

***Наш кар.***

25 сакавіка лідскае праваслаўнае святарства ўшанавала памяць протаіерэя **Мікалая Усціновіча** (1916-1979), які служыў на Лідчыне ў вёсках Ганчарах і Дакудаве. Споўнілася 35 год з дня яго спачыну. Святар вядомы сваім заступніцтвам за аднавяскоўцаў у гады нямецка-савецкай вайны. Добра валодаючы нямецкай мовай, айцец Мікалай карыстаўся ёю для ратавання сваіх суайчыннікаў ад праследу нямецкіх акупацыйных уладаў. Таксама протаіерэй Мікалай падтрымліваў сувязі з мясцовымі партызанамі, перадаваў ім ежу і меў дамоўленасць з камандзірам атрада праз тры гадзіны пасля выхаду партызанаў паведамляць пра іх візіт нямецкай адміністрацыі, каб засцерагчы простых людзей ад кары. Не гледзячы на гэта савецкія ўлады прысудзілі святару ў 1949-м годзе 25 гадоў лагераў, з якіх ён адбыў у выніку 7,5-й гадоў. Памёр айцец Мікалай у Ганчарах.





На яго магіле лідскія святары адслужылі заўпакойную ліцію, на якой маліліся і простыя вернікі. Пасля малітвы перад прысутнымі выступіў сын спачылага святара Ігар Мікалаевіч, былы вайсковец. Ён падзяліўся сваімі ўспамінамі пра бацьку, расказаў пра абставіны арышту іператрусу ў хаце айца Мікалая, сведкам якіх ён быў. Таксама Ігар Мікалаевіч заўважыў, што ў друкаваных артыкулах пра яго бацьку прысутнічае шмат памылак, у першую чаргу датычных датаў і прозвішчаў людзей. Работа па іх выпраўленьні ўжо вядзецца.

Дабрачынны цэркваў Лідскай акругі протаіерэй Расціслаў Салаўёў выказаў пажаданне і намер праз два гады адзначыць 100-годдзе з дня нараджэння протаіерэя Мікалая Усціновіча выданнем выпраўленага жыццяпісу святара з фотаздымкамі з архіва яго сына Ігара Мікалаевіча і іншымі ўрачыстасцямі.

***Наш кар.***



# Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў красавіку

Абакунчык Галіна
Абрамовіч Віталь Мар'янавіч
Адынец Сяргей
Аксак Валянціна Іванаўна
Аляксандраў Уладзімір
Аляхновіч Андрэй Пятровіч
Анацка Дзмітры Юр'евіч
Андрэенка Таццяна Пятроўна
Апяцёнак Мікалай Мікалаевіч
Арлоў Сяргей Аляксеевіч
Астапаў Сяргей Фядосавіч
Астапенка Аляксандр
Астапеня Рыгор Яўгенавіч
Астраўцоў Сяргей Аляксанд.
Атрашэнка Сяргей Нікіфар.
Ашурык Андрэй Міхайлавіч
Багдановіч Юры Уладзімір.
Балушэўская Ірына
Бандарэнка Зінаіда Аляксандр.
Барскі Віктар Яўгенавіч
Барысевіч Даніла Андрэевіч
Басякова Аліна
Болтак Аляксандр
Брылеўская Наталля Міхайл.
Будай Людміла
Була Уладзімір
Бульянкова Яніна
Бухоўская Яніна
Быль Віталь Анатольевіч
Вайцэховіч Зінаіда Афанас.
Вайцэховіч Эдуард Антонавіч
Вайцяховіч Марыя
Вакар Людміла Уладзіміраўна
Валадзько Вадзім Пятровіч
Валахановіч Анатоль Іосіфавіч
Валынец Алена
Варган Віталь
Васільеў Павел Аляксеевіч
Ваўкавец Яўген
Вераб'ёў Віталь
Вінаградаў Павел Юр'евіч
Войкель Павел Анатольевіч
Вярбоўская Ірына
Гагалінская Людміла
Гаеўская Аляксандра Рамуал.
Гапановіч Іван
Гарадовіч Ала Леанідаўна
Гарэлікава Тамара Пятроўна
Гасюк Марына
Гладкая Анастасія Мікалаеўна
Гоеўская Алеся
Грыгаркевіч Вадзім Юр'евіч
Грынявецкая Надзея Канстанц.
Грынявіцкі Юры Анатольевіч
Гуркова А.А.
Дарафейчык Ганна
Дарашкевіч Ягор
Даўгашэй Галіна Аляксандр.
Дземідзенка Анастасія Алякс.
Дзенісевіч Ніна
Дзінгілеўскі Віталь Віктаравіч
Дзьячкоў Алег Уладзіміравіч
Дзябёлая Алена Віктараўна
Дзягілева Галіна
Дзям'яненка Алесь Мікалаевіч
Доўкша Ірына
Драйліх Алена Уладзіміраўна
Дубіцкая Сцяпаніда
Дулько Вольга
Дундалевіч Людміла
Ельяшэвіч Ірына
Ермаловіч Канстанцін Уладзім.
Завадская Алена Міхайлаўна
Занкевіч Вольга
Захарэвіч Алена Міхайлаўна
Зверава Тамара Мікалаеўна
Зеляneўская Аксана Міхайл.
Зіноўева Святлана
Іванова Ніна
Ільніцкі Кірыла
Іўчына Тацяна Сяргееўна
Кадушкевіч Іван Антонавіч
Казлова Тамара Іванаўна
Казловіч Алена
Камлюк Алесь Антонавіч
Канановіч Аляксандр Алякс.
Канапацкі Вадзім
Караленя Жанна Сямёнаўна
Карповіч Алесь Аляксандр.
Касая Ганна
Кастусёў Рыгор Андрэевіч
Касьянчык Святлана Васіл.
Кацэвіч Ірына Мікалаеўна
Качан Алена Станіславаўна
Кашалькова Марыя Якаўлеўна
Кашэль Кастусь
Кісялёва Святлана
Кніт Уладзімір Міхайлавіч
Краснасельскі Дзяніс
Красоўская Наталля Леанід.
Красюк Фёдар
Крэцкі Віталь
Кузьміна Дар'я Міхайлаўна
Кузняцоў Канстанцін Канст.
Кулак Віктар Уладзіміравіч
Кулаковіч Уладзімір Уладзім.
Кульбака Аляксандр Пятровіч
Курачыцкі Андрэй
Курэпін Мікіта
Кусянкова Любоў Яўгенаўна
Лавіцкі Мікола Емельянавіч
Лакуцін Сяргей Дзмітрыевіч
Латушка Раман Андрэевіч
Леановіч Аляксандра
Леванцэвіч Лена Васільеўна
Літвіноўская Алеся Генадз.
Лічко Уладзімір Яўгенавіч
Лука Алена Вячаславаўна
Лысая Наталля
Львова Ганна Леанідаўна
Ляхоцкая Алена
Ляшчоў Віктар
Ляшчук Святлана Васільеўна
Макарэвіч Пётр Рыгоравіч
Максімовіч Кацярына
Малец Надзея
Малічэўскі Павел Віктаравіч
Мамантава Любоў
Манько Алеся
Маразюк Анатоль Васільевіч
Марачкіна Ірына Леанідаўна
Марозава Наталля Анатол.
Марчук Дзмітры Іванавіч
Маслюкоў Тэльман Віктаравіч
Матвеева Ганна
Мацвеева Тацяна Віктар.
Мельнікава Ала
Міцкевіч Вольга Уладзімір.
Міцынская Валянціна Алякс.
Несцяровіч Антаніна Андр.
Пазнухова Васіліса Міхайл.
Паклонская Людміла
Панкоў С.А.
Паплаўны Анатоль Уладзімір.
Папоў Ігар Селівёрставіч
Парэчына Зінаіда Паўлаўна
Петрашэвіч Арцём
Плахатнюк Святлана Паўлаўна
Пракаповіч Георгі Дзмітрыевіч
Прашкуратава Аляксандра А.
Пушкіна Яніна
Пшанічны Юры Рыгоравіч
Пяткевіч Дзяніс
Пятроўская Лізавета
Рабецкая Тацяна Юр'еўна
Райчонак Ада Эльеўна
Рудакоў Алег Васільевіч
Русецкі Сяргей Васільевіч
Савельева Тацяна Анатол.
Савіч Валер Уладзіміравіч
СагановічЛарыса Уладзімір.
Сакалуха Алесь Іванавіч
Саладкевіч Ганна Міхайлаўна
Санько Яна Сяргееўна
Сацута Іван Уладзіміравіч
Свярцоў Мікалай Аляксандр.
Селуянава Ала
Сівук Кацярына
Сідараў Сяргей
Сільнова Людміла Данілаўна
Сіўковіч Валянціна Мікал.
Скідан Аляксандр Пятровіч
Соркіна Іна Валер'еўна
Станіславенка Ганна Рыгор.
Статкевіч Андрэй Ігаравіч
Сташулёнак Іван Іванавіч
Стрыжак Андрэй Сяргеевіч
Сулецкая Ніна Андрэеўна
Сцянук Валянціна Андрэеўна
Сяцко Таццяна Сяргееўна
Таболіч Алена Уладзіміраўна
Тарарака Алена
Токць Сяргей Міхайлавіч
Труноў Віктар Іванавіч
Тушынскі Дзяніс Міхайлавіч
Усціновіч Юры
Федуковіч Вольга Мікалаеўна
Філіпчанка Дзяніс Уладзімір.
Фінагенаў Антон Аляксандр.
Фурс Антон Віктаравіч
Фэйгіна Сафія Георгіеўна
Фясенка Іван Іванавіч
Хаданёнак Марыя Іванаўна
Хадаровіч Ганна Уладзімір.
Харытонаў Сяргей Уладзімір.
Хлапянюк Наталля Андрэеўна
Царук Юлія
Целеш Лявон Сцяпанавіч
Цехановіч Зміцер
Цурпанаў Валадар
Цярохін Уладзімір Станіслав.
Цярэшка Васіль Яўгенавіч
Чаеўская Ала Канстанцінаўна
Чарняўская Святлана Сярг.
Чарткоў Алег Алегавіч
Чырэц Дзмітры Аркадзьевіч
Шапялевіч Валянціна Рыгор.
Шаўра Юры Міхайлавіч
Шаўцоў Раман Ігаравіч
Шашкель Ніка Пятроўна
Шкобрава Вольга Піліпаўна
Шруб Васіль Ануфрыевіч
Шук Надзея
Шут Павел Васільевіч
Шчукін Міхаіл Уладзіміравіч
Шчыракова Ларыса
Шэршань Генадзь Аляксандр.
Яблонскі Зміцер Міхайлавіч
Яловік Павел Ірэнііюшавіч
Ярмоленка Васіль Сцяпанавіч
Яфімовіч Юлія Паўлаўна
Яцэнка Вольга

## Увага

У красавіку 2014 г. у сядзібе ТБМ у межах кампаніі "Будзьма" працягвае працаваць гістарычная школа "Гісторыя ў падзеях і малюнках" пад кіраўніцтвам **кандыдата гістарычных навук Алега Трусава**

Заняткі будуць прысвечаны вывучэнню гісторыі Беларусі ў XVI-XVIII ст.

На занятках будуць дэманстравацца гістарычныя фільмы розных тэле- і кінастудый. Падчас заняткаў таксама прадугледжаны абмен думкамі наконт сучаснага стану беларускай мовы і яе функцыянавання ў грамадстве.

Такім чынам, удзельнікі змогуць павысіць свае веды па гісторыі Беларусі і папрактыкавацца ў веданні беларускай мовы.

У красавіку заняткі адбудуцца: **7 красавіка** (панядзелак), **14 красавіка** (панядзелак), **21 красавіка** (панядзелак), **28 красавіка** (панядзелак).

Пачатак а 18-й на вул. Румянцава, 13. Уваход вольны

# "Мова нанова" ў Гародні: другі занятак ізноў сабраў каля 100 чалавек




Другі занятак гарадзенскіх курсаў "Мова нанова" прайшоў у лютаранскай кірсе 24 сакавіка. Яго тэмай сталі казкі і займеннікі. Вядуць курсы Ігар Кузьмініч і Воля Астроўская. Ігар расказаў пра тое, як ён складае свае казкі, а Воля паралельна расказвала пра займеннікі. Спалучыла гэтыя тэмы практыкаванне, у якім падзеленыя на




групы ўдзельнікі мусілі прыдумаць казку пра займеннікі: *я, ён, яна, яно* і *ты.* Слухачы Універсітэта Залатога Веку паказалі спектакль у тэхніцы тэатра ценяў. Гасцінны гаспадар кірхі, пастар Уладзімір Татарнікаў сказаў, між іншым, што будзе намагацца праводзіць службы пабеларуску.

***Ян Лялевіч.***
*Твой стыль.*




## Ахвяраванні на ТБМ

1. Мікола Мяцельскі - 100000 р., г. Менск
2. Анатоль Краўчанка - 200000 р., г. Менск
3. Тарэлка Міхаіл - 50000 р., г. Менск
4. Шкірманкоў Фелікс - 100000 р., г. Слаўгарад
5. Усціновіч Васіль - 100000 р., п. Лясны, Мінскі р-н
6. Вештарт Галіна - 50000 р., г. Менск
7. Птушко Сяргей - 30000 р., в. Хільчыцы
8. Ляўшын Дзяніс - 200000 р., г. Менск
9. Прылішч Ірына - 50000 р., г. Менск
10. Маслюкоў Віктар - 20000 р., г. Менск
11. Ждановіч М.В. - 100000 р., г. Менск
12. Раманюк Т.І. - 100000 р., г. Менск
13. Чайкоўскі Павел - 85000 р., г. Менск
14. Сцяцко Павел - 200000 р., г. Гародня
15. Лабыка Зміцер - 70000 р., г. Менск
16. Кісель Аляксандр - 20000 р., Беліца, Гомельскі р-н
17. Малюкова Яніна - 30000 р., г. Гомель
18. Махнач Уладзімір - 30000 р., г. Менск
19. Табалевіч Ю.С. - 200000 р., г. Менск
20. Астравецкі А.А. - 50000 р., г. Берасце
21. Шарэйка Вольга - 50000 р., г. Заслаўе
22. Касцюкевіч Зміцер - 100000 р., г. Чэрвень
23. Глебік Юры - 205000 р., г. Свіслач
24. Мануленка Уладзімір - 50000 р., г. Берасце
25. Прылішч Ірына - 50000 р., г. Менск
26. Ляснеўская Алена - 50000 р., г. Менск
27. Кашалькова Марыя - 200000 р., в. Аксакаўшчына, Менскі р-н.
28. Кухаронак Александр - 200000 р., Смілавічы, Чэрвеньскі р-н
29. Давідоўскі Ігар - 100000 р., г. Менск
30. Шылко З.В. - 100000 р., г. Гародня
31. Пухоўская Юля - 50000 р., г. Менск
32. Данілюк Віктар - 50000 р., г. Менск

Дзейнасць ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас, вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ №3015741233011 у Аддзяленні № 539 ААТ "Белінвестбанка" код 739 (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк.

Паведамленне

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015741233011 Асабовы рахунак 739
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|
| Ахвяраванні на дзейнасць ТБМ | | | |

Касір
Пеня
Разам
Плацельшчык

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015741233011 Асабовы рахунак 739
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|
| Ахвяраванні на дзейнасць ТБМ | | | |

Квітанцыя
Касір М.П.
Пеня
Разам
Плацельшчык

*Прыйшлі выгнанцы на сібірскую зямлю і, выбраўшы шырокае месца, збудавалі драўляны дом, каб жыць разам у згодзе і братняй любові.*
***Ю. Славацкі, "Anhelli".***

*М. Лысак*

# Паўстанне катаржан*

**Невядомая старонка з гісторыі барацьбы за свабоду**

Рамуальд Траўгут... 5 жніўня 1864...

Хто з нас не ведае гісторыі - страты пяці нацыянальных герояў на валах Варшавы? Хто з варшавян не браў некалі ўдзелу, або нават і цяпер бярэ ўдзел у тых прыгожых урачыстых маніфестацыях сталіцы да месца страты пакутнікаў Студзеньскага паўстання.

Паэты пра іх вершы пісалі, пісьменнікі - аповесці. Дзеці вучаць пра тое ў школе. Народ увекавечыў герояў у песнях.

Але хто з нас ведае, што праз два гады пасля страты Траўгута, на другім канцы свету, у далёкай і марознай Сібіры зноў стацілі 4 палякаўудзельнікаў Студзеньскага паўстання, стацілі за барацьбу за свабоду, за збройнае паўстанне польскіх ссыльных супраць царскага прыгнёту?

Ніхто ў Польшчы не ведае прозвішчаў тых чатырох герояў. Але ж яны гінулі за тую самую справу, але ж уміралі з тым самым воклічам на вуснах:

- Яшчэ Польшча не загінула!

Мала або навогул нічога ў нас не ведаюць пра "Легіён вольных палякаў" у Сібіры, пра лёсы сібірскага паўстання 1866 года - апошняга ў шэрагу паўстанцкіх бітваў 19 стагоддзя.

Таму мы ўпэўнены, што чытач з зацікаўленасцю прачытае невымерла цікавую і павучальную яго гісторыю.

Можа не адзін скажа пасля прачытання гэтай гісторыі.

- Усё паўстанне было адным вялікім шаленствам. Бо загадзя можна было прадбачыць, як справа скончыцца!

Так палякі сталі да безнадзейнай барацьбы. Лёс іхні загадзя быў передвызначаны.

- Дык што, трэба было адмовіцца?

Не, стократ - не!

Бо "шаленствам" было тады і паўстанне Студзеньскае і ўсе іншыя паўстанні, былі баявыя арганізацыі арганізацый рэвалюцыйных, была заўсёды і ёсць усялякая барацьба з тыранамі, з прыгнётам цемрашалаў.

Але ж нішто іншае, як менавіта тыя "шалёныя" бітвы ўзносяць чалавецтва з адхлані цемнаты і ўціску да вышынь свету Справядлівасці і Свабоды.

"Змаганне за свабоду ніколі не ёсць шаленствам", - сказаў адзін з правадыроў паўстання расейскаму палкоўніку, - хоць бы пацягнула за сабой хоць якія ахвяры. Пралітая кроў паглынецца радзімай зямлёй. З касцей замардаваных народзяцца мсціўцы.

Дарога да свабоды не выслана дыванамі. Церні ранняць ступні тых, хто ідзе па ёй. Магільныя крыжы і шыбеніцы становяцца на ёй прыдарожнымі знакамі, яе кіламятровымі слупамі.

**Палякі ў Сібіры**

Гісторыя польскага ссыльніцтва сягае яшчэ ў часы Станіслава Аўгуста, калі падчас слаўнай Радамскай канфедэрацыі (1767-8) пасол Кацярыны II Рапнін загадаў схапіць чатырох сенатараў Рэчы Паспалітай (Каятана Солтыка, біскупа Кракаўскага, Юзафа Залускага, біскупа Кіеўскага, Вацлава Ржавускага, гетмана польнага і яго сына Севярына, старасту Далінскага), якія супрацiўляліся ўхваленню т.зв. "каардынальных правоў", што Кацярына хацела накінуць Польшчы. Вывезлі іх потым у Калугу над Акой. Гэты, небывалы ў гісторыі палітычны гвалт быў сведчаннем таго, якімі ўпэўненымі ў сабе былі ўжо ў той перыяд маскалі ў Польшчы, была прадэманстравана іх будучая акупацыйная палітыка.

У рэчаіснасці, неўзабаве пасля празы Барскай канфедэрацыі, а следам - паўстання Касцюшкаўскага, уся Сібір запоўнілася палітычнымі ссыльнымі з Польшчы.

Былі гэта, як правіла, выключна маладыя людзі. Рэдка можна было там спаткаць чалавека, якому было б за 30 гадоў, замест таго на кожным кроку бачна было 16 - 17 гадовых хлопцаў, а не раз нават і маладзейшых.

Акрамя маладога веку яшчэ адна рыса яднала ўсіх польскіх паўстанцаў - небывала годнасць, геройская пастава, нязгінная воля, моцны характар. Але над усім пераважала пачуцце любові да Айчыны, якая тлела гарачым зарывам у сэрцы кожнага з маладых герояў.

Сапраўдная залева Сібіры палякамі пачынаецца якраз у 19-м стагоддзі. Спрычынілася да таго перш за ўсё Лістападаўскае паўстанне.

Пасля яго ўпадку ўсе сібірскія вязніцы, карныя калоніі, пункты пасялення запоўніліся паўстанцамі. Былі нават акругі, у якіх палякі складалі большасць еўрапейскага насельніцтва.

**Таемнае таварыства катаржан**

Ані весткі пра паразы ў краі, ані доўгія гады катаргі - нічога не магло зламаць бунтоўнага духу палякаў! Кожную масавую хвалю палітычных ссыльных з Польшчы суправаджалі непазбежныя спробы збройнага паўстання з мэтай вырвацца з катаргі і з ссылкі:

*Чалавекам, які запачаткаваў збройную барацьбу ссыльных з расейскай уладай,*




*быў ні хто іншы, як слынны Маўрыцы Бянёўскі, галоўны герой неўміручага твора Славацкага. Спачатку ён змагаўся ў шэрагах Барскай канфедэрацыі, злоўлены, быў высланы на Камчатку, дзе адразу пасля прыбыцця арганізаваў паўстанне. Невялікай групы арыштантаў на чале з Бянёўскім удалося ўцячы з Нерчынскай катаргі.*

*Далейшы лёс Бянёўскага быў яшчэ больш багаты на прыгоды. Пасля доўгіх самотных вандровак па сушы і моры ён аказаўся нарэшце на афрыканскім востраве Мадагаскары.*

*Пасяліўшыся там, атрымаў сярод жыхароў такую папулярнасць, што тубыльцы абралі яго каралём. Як незалежны ўладар велізарнай выспы, правоздзіў пазней Бянёўскі перамовы з найвялікшымі дзяржавамі свету. Не пабаяўся нават абвесціць вайну магутнай Францыі!...*

Пасярод ссыльных 1830 г. паўстала вялікае, таемнае таварыства на чале з ксяндзам **Серацінскім** і доктарам **Шакальскім**. Гэтае таварыства мела на мэце *"вызваленне ўсіх няшчасных ад катаргі і прыцягненне да руху ўсіх пасяленцаў".*

У 1836 годзе палякі на Аляксандраўскім бровары ў Іркуцкай губерні планавалі зборныя ўцёкі ўсіх палякаў, якія працавалі на фабрыках Усходняй Сібіры.

Нарэшце ў 1855 арганізавалі - зрэшты няўдалыя - уцёкі вязняў-палякаў з катаргі ў Акатуі. *(Катарга тая стала праз 50 гадоў вядомай у цэлым свеце з нагоды ўцёкаў з яе прападыра расейскіх тэрарыстаў Гяршунева ў ... бочцы з капустай (Аг. "Універсум", №63).*

**16000 высланых за ўдзел у паўстанні 1863 года**

Пасля вялікіх і геройскіх змаганняў затухла Студзеньскае паўстанне. І зноў зараіліся дарогі Сібіры польскімі ссыльнымі. Вялікімі партыямі па некалькі сот, а нават часамі па 1000 чалавек парамервалі яны бясконцыя сібірскія палі, прабіраліся цераз тундру і цягнуліся цераз тайгу.

Нярэдка падарожжа да месца прызначэння трывала год або болей. Пастоем і адпачынкам быў побыт у падарожнай вязніцы ці катарзе. Велізарны працэнт ссыльных наогул не дабіраўся да мэты: чорныя крыжы сярод белага бязмежжа пазначалі месцы, у якіх яны ўпалі ад знямогі.

Паводле афіцыйных звестак, агульны колькасць палякаў, сасланых у Сібір за ўдзел у Студзеньскім паўстанні, перавышае аж 16800 чалавек!

Прыблізна палова з іх была выслана ў так зв. "Заходнюю Сібір", г.зн. у тую частку, якая знайходзілася бліжэй да Еўрапейскай Расіі. Былі гэта "адміністрацыйныя" ссыльныя. Яны маглі яшчэ мець надзею, што ім удасца калі-небудзь вярнуцца на радзіму. Але другая палова, тыя, якіх саслалі ва Ўсходнюю Сібір, не магла ўжо нават пра тое марыць. Для іх найвышэйшай ласкай магло быць толькі вызваленне з катаргі і дазвол на пасяленне паблізу вязніцы. Пра вяртанне ў Польшчу мовы быць не магло.

Там, ва Ўсходняй Сібіры аказаліся найбольш дзейсныя элементы паўстання 1863 года. Менавіта там думка пра вызваленне з дапамогай збройнага бунту знайшла найжывейшы водгук.

**Краснаярска-Канская змова**

План агульнага паўстання палякаў-катаржан, раскіданых па розных месцах Сібіры, узнік у пачатку 1865 года ў краснаярскай вязніцы. Там сабралася ў той час значная партыя палякаў з Каралеўства.

Сярод іх былі такія, якія адыгралі ў паўстанні выбітную ролю. "Для многіх з іх", - як выразіўся адзін з вязняў, - "стаялі гатовыя шыбеніцы ва ўсіх гарадах Польшчы".

Што яны маглі страціць? Вырак ваенных судоў гаварыў: "Пажыццёвая катарга". Ці ж не лепей было паспрабаваць адваяваць сабе свабоду, чым гніць праз усё жыццё ў турэмных лёхах?

Найактыўнейшымі змоўшчыкамі былі **Ляндоўскі, Сулімскі, Ратынскі, Шленкер, Шарамовіч, Рагалевіч, Цэлінскі** і **Арцімовіч**.

**Жандармы - штылетнікі**

Мусім тут пазнаёміць нашых чытачаоў з адной, мала вядомай старонкай Студзеньскага паўстання.

Калі ў 1863 годзе побач з расейскай уладай пачаў дзейнічаць таемны Часовы нацыянальны ўрад, адной з першых яго спраў была арганізацыя ўласнай паліцыі. Вядома, што тая дабраахвотная патрыятычная паліцыя выдатна выконвала свае функцыі.

Сярод гэтая таемнай паліцыі асаблівай увагі заслугоўвае група жандармаў - штылетнікаў. Быў гэта адборны аддзел, прызначаны для выканання выракаў смерці. Задачай яго было караць найбольш жорсткіх праціўнікаў і ачышчаць поле барацьбы ад здраднікаў і шпіёнаў. Арганізацыя гэтая ўзнікла яшчэ перад 1863 годам, а асабліва актыўную дзейнасць прадэманстравала падчас Студзеньсскага паўстання.

Пра спосабы працы жандармаў - штылетнікаў мы можам даведацца з наступнага паліцэйскага рапарту.

*"З варшаўскіх паліцыянтаў з найбольшай удачай ад іншых працаваў Фэлькнер, які ў пачатку 1862 года выкрыў таемную друкарню, а пасля вяртання Гілера і Падлеўскага (членаў нацыянальнага Камітэта) з Лондана перахапіў пакет адозваў Герцана.* (Герцан знакаміты расейскі рэвалюцыянер, выдаваў за мяжой сацыялістычную літаратуру, якая пазней перапраўлялася ў Расію. Асабліва вялікай папулярнасцю карысталася яго выданне "Колокол" ("Звон") .)

*Рэвалюцыйная арганізацыя пастанавіла ў згодзе з Трыбуналам ліквідаваць Фэлькнера, як небяспечнага праціўніка і здрадніка. Выкананне выраку дaручылі рэвалюцыйнаму начальніку Варшавы, ён меў у сваім распараджэнні так званых жандармаў-штылетнікаў. Загад начальніка Варшавы выканалі тры маладыя штылетнікі: Каткоўскі, Марцінкевіч і Мукарскі (Мэнкарскі). Сабраўшыся ў перадодзень задуманага забойства, прысягнулі на вернасць паўстанню перад распяццем, пад якім ляжаў шнур і некалькі атручаных штылетаў. Узялі штылеты і разышліся на свае пасты. Забойства было ўчынена ў белы дзень на людной вуліцы, і засталося яно бяскарным. Калі Фэлькнер, вяртаючыся дадому, увайшоў праз брамку ў сад, Уладзіслаў Каткоўскі, схапіўшы яго за горла, прыціснуў да сцяны і ткнуў штылетам. Астатнія два змоўнікі нанеслі яму некалькі ўдараў, потым усе разбегліся. Але Каткоўскі, адышоўшы трохі, вярнуўся да забітага і адцяў яму вуха, мела яно быць доказам выканання выраку".*

**Уладзіслаў Каткоўскі** - гэта адзін з прывадыроў паўстання, якое хочам тут апісаць.

Калі ў барацьбу з паўстаннем уступіў крывавы Мураўёў-вешальнік, паўстанцы адказалі на гэта ўтварэннем аддзела "жандармаў - вешальнікаў". Яны разам з "жандармамі-штылетнікамі" стварылі службу справядлівасці Нацыянальнага ўраду.

Такіх вось "жандармаў" сабралася ў краснаярскай вязніцы каля 200. Былі гэта людзі, гатовыя на ўсё. Смерць не была ім страшная - столькі разоў перад тым заглядвалі ёй у вочы. Па ўказцы свайго правадыра **Паўла Ляндоўскага** гатовыя былі ісці нават у агонь. Бо ён быў для іх прадстаўніком на хвілю разгромленай, але надалей дзейнай рэвалюцыйнай улады.

**Паразуменне**

У самім Краснаярску ўсё было гатова да выступлення. Але належала паразумецца яшчэ з іншымі асяродкамі. Заданне гэтае дaручылі **Рагалевічу**. Ён выконваў тады функцыі "старасты вязніцы" і карыстаўся такім вялікім даверам уладаў, што мог нават на доўгі час пакідаць турму.

І вось Рагалевіч, удаўшы хваробу, звольніўся з вязніцы, сказаўшы што для лячэння і замест таго рушыў у вёску Сухі Бузім, якая ляжала на тракце, што ішоў да Енісейска. Быў гэта, паводле змоўшчыкаў, важны аперацыйны пункт. Там жыў паляк **Ліпінскі**. Да яго таксама звярнуўся Рагалевіч і канешне ўдалося яму схіліць Ліпінскага на думку паўстання.

Падарожжа ў Сухі Бузім трывала вельмі доўга. І таму Рагалевіч, як толькі вярнуўся атрымаў загад неадкладнага накіравання ў далейшую дарогу, на сваё вызначанае месца побыту.

Вярхушка змоўшчыкаў правяла нараду. Пастанавіла, што пакуль Краснаярск ужо "пэўны", то няма патрэбы далей тут заставацца. Нашмат большае значэнне мела цяпер арганізацыя іншых вязніц. Для гэтага пастанавілі пакінуць у Краснаярску **Сулімскага** і **Ратынскага**, астатнія змоўшчыкі звярнуліся да паліцмайстра Баршчова з просьбай, каб іх таксама паслаў разам з Рагалевічам на іх месца празначэння.

Баршчоў ахвотна на тое згадзіўся. Прадчуваў, што вязні нешта надумалі, і хацеў як найхутчэй пазбыцца небяспечнага элементу.

*(Працяг у наступным нумары.)*

* Копію гэтай невялічкай кніжачкі на польскай мове ***M. Lysek. Powstanie katorzan*** даслаў у рэдакцыю Ўладзімір Цярохін. Арыгінал ён перадаў у Нацыянальную бібліятэку. Мы друкуем пераклад. Аўтар пісаў кнігу для палякаў, але беларусы могуць знайсці тут шмат цікавага, прынамсі прозвішчы на палову беларускія.





*Яўген Гучок,*
*паэт, публіцыст*

# Ліцвінскі (беларускі) след у падзеях 1863-1864 гадоў і не толькі

Змест майго паведамлення пра ліцвінскі (беларускі) след у падзеях 1863-64 гадоў амаль не патрабуе глыбокаіх факталагічных вышукаў, а заадно і грунтоўных пацверджанняў: ён на відавоку, на паверхні, амаль у паветры лунае, не гледзячы на тое, што старанна замоўчваецца на лініі захад-частка цэнтру - усход. Яно і не дзіўна. Польшча пасля з'яднання з ёй ВКЛ, якое ў свой час выратавала яе як нацыянальнае ўтварэнне і дзяржаву ад анямечвання, упарта імкнулася растварыць у сабе ліцвінскі (беларускі) свет; Расія ж насуперак Польшчы пастаянна лічыла, што ліцвінскі (беларускі) свет - гэта не што іншае, як былое адзінства ўсяго рускага абсягу, якое павінна быць вернута ёй і далучана да яе непадзельнасці. Што ж тычыцца так званага цэнтра, а дакладней аднаго са складнікаў - пэўнай часткі магнатэрыі і заможнай шляхты Літвы (Беларусі), то яны з самымі рознымі мэтамі, пакінуўшы свой просты народ, паслугавалі ці то Варшаве, ці то Маскве. Але ліцвінскі свет заставаўся жывым сярод невялікай колькасці наднароднага паверху і амаль цалкам усяго самога народа. І нам, сёняшнім нашчадкам Літвы (Беларусі) не так ужо і важна, за каго прымаюць нас на захадзе, усходзе ці тут, пачуюць яны нас ці не; нам важна, каб мы самі сябе пачулі і, галоўнае, каб мы самі ведалі, хто мы і цераз якія гістарычныя падзеі і выпрабаванні прайшлі нашы годныя продкі - папярэднікі.

Таму дасведчанага ў гэтых праблемах чалавека ніколькі не дзівіць тое, што актыўны ўдзел, а можа, нават і галоўную ролю Літвы (Беларусі) у бітве пры Грунвальдзе імкнуцца замоўчваць і сённяшнія нашы заходнія, і ўсходнія суседзі. Сярод іншага варта ім нагадваць, што сярод палонных крыжацкіх сцягоў палова была польскіх, пад якімі палякі ваявалі на баку ордэна; а смаленскі, рускі (не маскавіцкі) полк, які змагаўся поруч з палкамі і харугвамі іншых нашых гарадоў і мястэчак, быў з імі і ў адным суграмадзянстве ВКЛ. Не вельмі праглядаецца ў працах гісторыкаў тых бакоў наш след і ў паўстанні 1794 года. А ці не віленскія якабінцы выступалі тады за адмену прыгону і адналенне федэратыўнай Рэчы Паспалітай. А ці не генерал - лейтэнант Якуб Ясінскі - адзін з тых галоўных якабінцаў, камендант узброеных сіл ВКЛ - новай па духу і зместу арміі - набіраў у сваё войска шляхту, мяшчан і сялян. Больш таго, пісаў пракламацыі для сялян на беларускай мове. За ўсё гэта кіраўнік паўстання апалячаны ліцвін Тадэвуш Касцюшка пад націскам варшаўскіх кансерватараў адхіліў Я. Ясінскага ад кіраўніцтва паўстаннем у Літве і Беларусі.

Што ж датычна паўстання 1830-31 гадоў, падрыхтаванага тайнымі арганізацыямі, у тым ліку Патрыятычным таварыствам (сімпатыкамі дзекабрыстаў) і клубам з прадстаўнікоў шляхты і інтэлігенцыі Беларусі, Літвы і Украіны (ініцыятыва І. Лялевеля, дарэчы, маці яго была ліцвінка-беларуска), то ў рэвалюцыйным лозунгу "За нашу і вашу свабоду", ("Za wolnosc nasza i wasza"), які напрамую быў адрасаваны рэвалюцыйным сілам Расіі і заклікаў да сумеснай барацьбы з расійскім самадзяржаўем, праглядаюцца інтэлектуальна-маральная вузасць і польскі нацыянальны эгаізм тых жа варшаўскіх кіраўнікоў. Літву (Беларусь) яны ўжо не лічылі часткай ВКЛ, а Польшчай, ва ўсякім разе часткай карэннай Польшчы. А былі ж яшчэ там і ўкраінцы, і жмудзіны, і іншыя. Каб жа Варшава прызнавала, апроч польскіх нацыянальных утварэнняў і інтарэсаў у былой Рэчы Паспалітай, утварэнні і інтарэсы іншых, то лозунг павінен быў гучаць "За нашы і вашу свабоду" (“Za wolnosci naszy i wasza”). Менавіта гэтыя вузасць і эгаізм у пэўнай ступені могуць лічыцца і адной з прычын паражэння паўстання. Маскоўскі ж бок у гэтым паўстанні наўмысна не бачыў ліцвінскага (беларускага) складніка, маўляў нашы супраць нашых не паўстаюць.

Названыя падыходы ў ацэнках і розных іншых падзей на Літве (Беларусі) пераважаюць і ў разуменні (дакладней-наўмысным неразуменні) вышэй названымі бакамі і нацыянальна-вызвольнага паўстання 1863 -64 гадоў. Так, створаны у 1863 г. у Вільні Чырвоны Літоўскі камітэт, куды сярод іншых уваходзілі капітан рускага генеральнага штаба Людвік Звяждоўскі і Кастусь Каліноўскі (малады ліцвінскі Магнат), мелі адрозны ад варшаўскіх кіраўнікоў паўстання погляд на лёс Літвы і іншыя праблемы, асабліва сацыяльнага характару. Погляды іх на ўдзел у паўстанні шляхты і сялянства не заўсёды супадалі. Калі першы аддаваў перавагу шляхце, то другі - сялянству. Аднасна ж будучага Літвы чырвоныя віленскія сепаратысты меркавалі, што Літва павінна разам з Польшчай дабівацца незалежнасці, але быць асобнай адзінкай у незалежнай Польшчы, гэта значыць быць звязанай з ёй толькі федэратыўнымі повязямі. Часам К. Каліноўскі ў сваіх поглядах на Польшчу ішоў яшчэ далей, аб чым сведчаць старонкі прац удзельніка гэтага паўстання польскага пісьменніка і гісторыка, аўтара грунтоўных публікацый па гісторыі паўстання Валера Пшыбароўскага (1845-1913 гг). Вось колькі слоў з яго "Апошніх хвілін Студзеньскага паўстання на падставе аўтэнтычных крыніц", "Гісторыі двух гадоў: 1861-1862" і "Гісторыі 1863 года": *"... ён* (К. Каліноўскі - *Я.Г.*) *быў адным з галоўных прыхільнікаў і папулярызатараў сепаратысцкіх літоўскіх памкненняў і не адзін раз выказваўся на сваёй сакавітай народнай* (беларускай - *Я.Г.*) *мове, што "дурным варшаўскім мазгаўням нельга даваць лёсы Літвы"*. Далей тое ж самае. *"Калі нарэшце Звяждоўскі, з-за падазрэнняў расейскіх улад накont удзелу у змове, вымушаны быў выехаць у Маскву, Каліноўскі стаў гаспадаром становішча і хоць нямат мог зрабіць, бо не было магчымасцяў, аднак з нямен-шым запалам спрачаўся з "дурнымі варшаўскімі мазгаўнямі пра поўную аўтаномію Літвы"*. І яшчэ. Зноў жа ўторый-цвердзіў: *"Нельга, - заклікаў ён* (К. Каліноўскі - *Я.Г.*) *даваць будучы лёс Літвы гэтай дурной кумцы Варшаве"*. Пра многае гаварыць і зварот К. Каліноўскага да ліцвінскага (беларускага) народа на яго роднай мове праз "Мужыцкую праўду" і "Лісты з пад шыбеніцы". Сярод многіх іншых паўстанцаў і іх кіраўнікоў не пазбег пакарання смерцю і Л. Звяждоўскі, які з-за падазрэння выехаў ў Маскву, а потым ужо ізноў вярнуўся ў Літву (Беларусь), дзе заняў пасаду паўстанцкага вайсковага начальніка Магілёўскага ваяводства. Колькі слоў пра геаграфію паўстання 1863-64 гадоў на тэрыторыі Літвы (Беларусі). Паказальны факт: напярэдадні гэтага паўстання на 1861 г. на гэтай жа тэрыторыі засведчаны 379 сялянскіх выступленняў (пачынаючы з паўстання іўеўскіх сялян) супраць драпежніцкіх умоў зямельнай рэформы. Вось яна шырокая і трывалая база для сацыяльнага і нацыянальнага рэвалюцыйнага ўзбуджэння па ўсёй тэрыторыі былога княства (ВКЛ). Гэта добра разумелі К. Каліноўскі і Чырвоны Літоўскі камітэт. Для Варшавы ж такое было не прыймальна: прападалі яе многія інтарэсы. Вось толькі некаторыя населеныя пункты нашай этнічнай тэрыторыі, што былі ахоплены паўстанне: Вільня, Пружаны, Кобрын, Новы Двор на Шчучыншчыне, вёска Азярцы на Случчыне, Горы-Горыцкія, вёска Пагосцішча на Аршаншчыне, вёска Парэчча на Дзісеншчыне, вёска Ўладыкі на Вілейшчыне, вёскі Мілавіды і Пятровічы, Новыя Пяскі на Баранавіччыне, вёска Баруны на Ашмяншчыне і многія іншыя. Тут адбываліся і бітвы паўстанцкіх атрадаў з царскімі карнікамі. А калі называць адрасы паўстання 1863-1864 гадоў у самой Гародні і на Гарадзеншчыне, то гэтая тэрыторыя вельмі шчыльна была пакрыта паўстанцкім рухам. А ўвогуле ні адна губерня, ні адзін павет не былі ў баку ад нацыянальна-вызвольнага руху тых часоў.

Адносна сацыяльнага складу паўстанцаў і тых, хто ім сімпатызаваў і дапагаў. У ім прадстаўлены ўвесь спектр гэтага складу, што быў і ў мірны дапаўстанцкі час. У шэрагах змагароў былі графы, шляхта-абшарнікі, дробная шляхта, чыноўнікі, святары (пераважна каталіцкія), сяляне, адстаўныя вайскоўцы (нават падпалкоўнікі) царскай арміі, салдацкія дзеці, студэнты, гімназісты і інш. Сярод інтэлектуальна-маральнай эліты ў гэтым пераліку нельга не назваць імёны графаў В. Валовіча і М. Валовіча, паэта Альгерда Абуховіча (графа Бандынэлі), паэта Францішка Багушэвіча, паэта і драматурга Вінцэнта Дуніна-Марцінкеіча (ўсе трое літаратараў з'яўляюцца пачынальнікамі новай беларускай літаратуры), мастака Б. Залескага (ў ссылцы ён сябраваў з Т. Шаўчэнкам), З. Чаховіча (пасля вяртання з Сібіры адыграў важную ролю ў жыцці маладога Я. Купалы, М. Ямант (нявеста К. Каліноўскага) і многіх іншых Абвяржэннем афіцыйных прапагандысцкіх цверджанняў, што бунтавалі ў Паўночна-Заходнім краі ў асноўным польская абшарнікі і заможная шляхта, могуць служыць і афіцыйныя спісы вязняў, якія знаходзіліся, да прыкладу, у Гарадзенскай турме па справе падзей тых часоў. Так, на 01.10. 1863 г. шляхты-абшарнікаў там было 264 чалавекі, сялян жа (каталіцкага і праваслаўнага веравызнання) - 274; а на 01.11.1863 шляхты-абшарнікаў - 259, сялян жа - 339 (НГАЛБ у Гародні: ф. 3, в. 1, с. 26, стар. 176-178) (Гл. кнігу І. Буднік "Да падзей 1863-64 гадоў на Гарадзеншчыне. Юр-Прынт. 2013. Гродна).

Нацыянальны склад паўстання таксама адпавядаў стану гэтага ж складу грамадства ў дапаўстанцкі час. Большасць складалі ліцвіны (беларусы), пераважна з'арыентаваныя на еўрапейскасць, палякі, яўрэі і іншыя. Зноў жа, датычна Гародні, Гарадзеншчыны, дададзім да гэтага інфармацыю А Вашкевіча з яго выдання "Адрасы паўстання (1863-1864 гг.) у Гародні і на Гарадзеншчыне ("Гарадзенская бібліятэка"): *"Сёння вядомы прозвішчы больш чым трохсот расійскіх афіцэраў, салдат і казакоў, якія перайшлі на бок паўстанцаў і ваявалі ў іх шэрагах. А дэмакратычная арганізацыя "Камітэт рускіх афіцэраў у Польшчы"* (выхадцы з паняволеных тэрыторый - *Я.Г.*) *выдавала і распаўсюджвала сярод рускіх войскаў адозвы з заклікам не змагацца супраць паўстанцаў"*.

Хто ж былі карнікі?!... Вядома, царская, праімперскі настроеная ваеншчына, якая паслугавала татальнаму расійскаму рабству і зацвярджэнню рускага ўладарання і панавання ў так званым Паўночна-Заходнім краі - былой часткі ВКЛ. Сярод іх сустракаліся і тыпы з польскімі, ліцвінска-татарскімі, польска-рускімі і іншымі прозвішчамі (палкоўнік Пенхяржэўскі, маёр Хазбіевіч, папячыцель Віленскай вучэбнай акругі Шырынскі - Шахматаў і інш.). Часам, каб падзарабіць, мясцовыя здраднікі (знаходзіліся і такія, пераважна сярод сялян) адлоўлівалі па лясах інсургентаў (паўстанцаў) і здавалі іх царскім уладам. Улады такому паслугачу давалі цялушку ці карову, якую адабралі ў непакорлівага суседа таго ж паслугача. Такое дзеялася і на карэнных землях Польшчы (гл. творы Стэфана Жэромскага). Вось яны своеасаблівыя прыкметы латэнтнай (схаванай) грамадзянскай вайны. Тут неабходна звярнуць увагу на тое, што яшчэ з'яву: карнікі (ці то рускай, ці то польскай, ці то здрадніцкай ліцвінска-рускай, ці то здрадніцкай ліцвінска-польскай афарбоўкі) выключна жорстка, бязлітасна ставіліся да ліцвінаў (беларусаў) - паўстанцаў: апошнім адмаўлялася права на існаванне. Палякі помсцілі ім за сепаратызм, руськія - нібыта за здраду (Гл.: В. Хурсік "Маскоўская ўлада на Літве. 1863-1869 гг.", Мн., 2013г.). Гэтая трагічная эстафета для ліцвінаў (беларусаў) была перададзена працягнута і ў XX-е стагоддзе: Курапаты (Вялікіх халакост) - Бяроза Картузская (Малы халакост). Ды і сёння гэтая тэндэнцыя пануе ў нас. А калі нашым прыгнятальнікам даводзілася кепска звонку, яны ўспаміналі ліцвінаў (беларусаў) і тады нават звярталіся да іх на іх роднай мове, якой пыхліва пагарджалі. Так, пры нападзе Германіі на Польшчу у 1939 годзе Варшава па-беларуску звярталася-заклікала па радые і ў друку змагацца супраць немцаў (Гл. І. Данілов "Записки западного белоруса", Мн., 2007 г.), а Масква пасля нападу Германіі на СССР у 1941 г. гатова была стварыць нават Беларускую армію для змагання з немцамі. У мірны ж час як адзін (заходні), так і другі (ўсходні) сусед-прыгнятальнік трымаюць нас за донараў ва ўсіх сферах жыцця. Асабліва гэта тычыцца культурнага поля. Тут пры спрыяльных умовах мы іх запраста можам абыйсці ў стварэнні культурных каштоўнасцей. Нездарма ж Ю. Пілсудскі, адзін з зацятых ворагаў беларушчыны, заяўляў калісьці ў сваім атачэнні, вядома, антыбеларускім, што Польшча - гэта нібы той абаранак: у сярэдзіне - пустата, а моцная яна толькі крэсамі. І прама, і ўскосна можна гэта аднесці ў пэўнай ступені і да Расіі. Думаецца, прыкладаў гэтаму ў гісторыі дастаткова. Успомнім, хаця б імёны М. Гогаля і Ф. Дастаеўскага. І таму нічога дзіўнага няма, што палякі ва ўсіх сваіх энцыклапедыях і біяграфічных слоўніках К. Каліноўскага вызначаюць як паляка. Да іх далучаюцца Масква і розных разліваў антыпатрыёты ў Беларусі. А вось яшчэ адзін цікава-паказальны, здавалася б прыклад-парадокс у гэтыя тэму і фармат. Грынявіцкага Ігната Яўхімавіча (1855 - 1881 гг.) - рэвалюцыянера-нарадавольца, аднаго з заснавальнікаў у "Народнай волі" беларускай фракцыі, нацыянальная праграма якой была надрукавана ў часопісе "Гоман" (№1) у 1884 г., палякі адносяць да рускіх рэвалюцыянераў, руськія ж - да польскіх. І ніхто з іх ні словам не абмовіцца, што ён быў ліцвінам (беларусам). Не думаецца, што іх стымлівае факт, што І. Грынявіцкі быў царазабойцам. Тут іншае - атыліцвінскае (антыбеларускае).

Так вось працуюць - выконваюць загады зверху пратакольныя гісторыкі - фальшываманетчыкі. Іх і іхніх гаспадароў імкненні і такім чынам (г.зн. і інафармацыйна) скіраваны та тое, каб дабіць рэшткі нацыянальнай свядомасці ў рэштках ліцвінскага (беларускага народа. І вось таму такі незайздросны і ў інфармацыйнай прасторы лёс ліцвінскага (беларускага) следу аднosна гістарычных падзей і ўвогуле, але ён, след гэты, быў, ёсць і будзе на скрыжалях музы Кліо. І на нашу жывую светлую, перспектыву хочацца спадзявацца.

*У ваколіцах Новага Двара, што ў Шчучынскім раёне (колішні Лідскі павет) яшчэ ў 1929 годзе ва ўсю спявалі песню з часоў паўстання 1863 года. Песня амаль што на чыстай беларускай мове.*

**Крыніца:**

BERESEWICZ A. Historja Szczuczyna (Na podstawie materjalow ks. Romualda Swirkowskiego) // Orli Lot № 8-9, pazdziernik-listopad 1929. S. 173.

*Знайшоў песню і перадаў у рэдакцыю лідскі краязнавец* ***Леанід Лаўрэш.***

Hejze chlopcy dosi spac,
Para kosy prybirac,
Kosy, kosy i siakiery,
Baranici swajej wiery.
Para.

Herod naszy dzietki bje,
A krou naszu jak wuz pje,
Lepiej byci menczanikam,
Niz cesarskim niewalnikam.
Para.

Wy za pieczkaju, na polu,
A my u lesie ziemlu holu
Prytulilib jak piarynku,
Choc zasnuci, choc hadzinku.
Para.

# ЖАВАРОНАЧКІ, ПРЫЛЯЦІЦЕ!

У беларускай традыцыі існуе прыгожае і светлае свята "Гуканне вясны", якое наладзілі работнікі Ходараўскага цэнтральнага Дома культуры 27 сакавіка. Удзельнікі свята, апранутыя ў народныя касцюмы, з сімвалічнымі папяровымі птушкамі-жаўранкамі выйшлі на вуліцу. Спявалі песні-вяснянкі з абавязковым працяглым распевам - "гуканнем", а сустрэчным жадалі здароўя, дабрабыту і добрага ўраджаю. Жанчыны напяклі з цеста фігуркі ў форме птушак, раздавалі дзецям і моладзі, тыя падкідвалі іх у неба з воклічамі: "Жавароначкі, прыляціце!". Менавіта гэтыя палявыя птушачкі ў славян лічыліся веснікамі вясны. Ідучы за сяло дзяўчаты ўпрыгожвалі дрэвы рознакаляровымі папяровымі птушкамі.





Абышоўшы вёску, накіраваліся да загадзя падрыхтаванага вогнішча. Хоць надвор'е выдалася надзіва сонечным і цёплым, але ж пасядзелкі ля вогнішча ніхто не адмяняў. Там і адбыліся абрадавыя дзеянні. Моладзь і дзеці забаўляліся гойданнем на арэлях, спявалі песні, вадзілі карагоды, заклікалі вясну, прасілі сонейка хутчэй сагрэць зямлю. Не абышлося і без народных гульняў такіх як: "Баяры", "На гарэ мак", "Галінка" і інш. Адбыліся і спартыўныя спаборніцтвы: перацягванне каната, бег на калодках і інш.

Звонкія галасы, шчаслівыя твары ўдзельнікаў, зацікаўленыя вочы гледачоў - ніхто не застаўся абыякавы! Пакуль будуць адбывацца такія сустрэчы з даўнінай, наша самабытная культура будзе жыць.





**Н. ВАЙЦЮКЕВІЧ**
*метадыст па этнаграфіі і фальклоры Лідскага раённага метадычнага цэнтра народнай творчасці.*

# Сказы без берагоў

Больш за год назад у сталічным выдавецтве "Кнігазбор" пабачыла свет цікавая, глыбокая, арыгінальная зместам і формай кніга паэта з Дзярэчына Зэльвенскага раёна Гарадзенскай вобласці Генадзя Каўша "Сказы" (Выбранае). Ад першай і да апошняй, 140-й, старонкі яна прыцягальная народна-філасафічнай напоўненасцю тэксту пераважна ў адзін сказ /таму і назва "Сказы" і паралельна (хай і аднаварыянтнай) арнаментальнай аздобленасцю (мастацкае афармленне). Такім чынам, адна старонка - арнамент, другая - тэкст.

Уступ, якім адкрываецца кніга, утрымлівае ў поўным сэнсе літаратуразнаўча-канцэптуальны пасыл. Гэта хутчэй, калі хочане, - літаратурны маніфест, дакладней, частка літаратурнай дактрыны. І таму гэты незвычайны "Уступ" варта падаць тут цалкам, тым болым, што ён невялікі аб'ёмам, але сэнсава не мае берагоў.




***УСТУП***

*"Сказы. Яны бываюць простыя, складаныя, завершаныя, незавершаныя... Чамусьці сказы ў мяне асацыіруюцца з крокамі. На маю думку, сказ - гэта зроблены нейкі крок, а створаны тэкст - гэта пройдзены нейкі шлях. Наша жыццё - быццам шматтомнік, які складаецца з "напісаных" намі тэкстаў-шляхоў.*

*На нашы тэксты-шляхі моцна ўплываюць тыя, хто знаходзіцца вакол нас. Уплываюць па-рознаму, таму нашы тэксты-шляхі розняцца сваім зместам і нярэдка "пішуцца" з памылкамі, якія моцна ўплываюць на наш лёс.*

*Са шматтомніка жыцця кожнага чалавека можна ўзяць нямала такога, што дапамагло б сфарміраваць нейкія як бы граматычныя правілы, выкарыстоўваючы якія, можна "пісаць" свае жыццёвыя тэксты-шляхі, не паўтараючы чужых памылак.*

*У кніжачцы я прапаную свае разважанні, думкі, высновы ў выглядзе сказаў. Спадзяюся, што, можа, хтосьці знойдзе ў іх для сябе нейкую падказку.*

*Давайце разам выпраўляць памылкі ў тэксце жыцця."*

Што ж датычна саміх тэкстаў-сказаў, то некаторыя з іх хочацца чытаць, перачытваць і запамінаць, бо яны, пры іх багатай інфармацыйна-сэнсавай нагружанасці і ўшчыльнена-ашчадным словаўжыванні таксама - "без берагоў". Тут сказ - болей, чым сказ, ён - нібыта сказанне часам. Ну вось колькі прыкладаў: *"Не паважаючы жыццё, мы раздражняем смерць"*; *"Сузор'е не слепіць, а зачароўвае"*; *"Ад цемры ратуюць людзі, калі людзі - зоркі"*; *"Мы добра прыглядаемся толькі ў час змроку"*; *"Калі абломваюць галіны, баліць і караням"*; *"Няспелы плод не рады восені"*; *"Цяпло таксама выжывае сярод холаду"*; *"Галалёд - папярэджванне самаўпэўненым"*; *"Перагарэлы ліхтар пакідае толькі светлыя ўспаміны"*; *"Калі апускаецца ўзровень, паднімаецца дно"*; *"Зачыненыя дзверы - таксама сцяна"*; *"Смешнае - гэта і незразумелае сур'ёзнае"*; *"На полі няўдачы і ўдача - пустазелле"*; *"Прыступкі не церпяць коўзкіх падэшваў"*; *"Хто вельмі часта знаёміцца, той добра памятае толькі сваё імя"* і г. д., і да т. п. Прыклады можна было б доўжыць, але лепш самому знайсці гэтую незвычайную кніжку, прачытаць яе.

І яшчэ. Выданне гэтае - малафарматнае, кішэннае, памерам 70х100. Гэта таксама прываблівае сваёй зручнасцю.

Перагорнута апошняя старонка кніжкі... І думаецца: добра, але хай бы больш было. Таму наша пажаданне таленавітаму аўтару далейшых поспехаў на ніве беларускага пісьменства, асабліва ў гэтым, вызначаным для сябе кірунку. А мы, удзячныя, будзем чакаць новых сазаў і чытаць іх .

*Яўген Гучок.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі* № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
*Адрас рэдакцыі:* 231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslova@tut.by



http://nashaslova.mns.by/ http://pawet.net/
http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацый*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 31.03.2014 г. у 10.00. Замова № 1340.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 5600 руб., 3 мес.- 16800 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.